# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№ 4 (167)
красавік 2016

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

## У НУМАРЫ:

### Беларускія літаратары наведалі Падляшша

У красавіку ў Беластоку адбыўся чаргові, ужо пяты, міжнародны кніжны кірмаш. Для беларускіх выдаўцоў быў арганізаваны адмысловы стэнд. Удзел у мерапрыемстве ўзялі і беларускія пісьменнікі Віталь Рыжкоў і Юры Несцярэнка.

Працяг на стар. 4

### Не трэба размахваць мовай, як сцягам

"Кім будуць беларускія дзеткі, калі вырастуць?" – дыскутавалі на ток-шоў ад кампаніі "Будзьма беларусамі!" у Брэсце 1 красавіка.

Працяг на стар. 5

### Беларуская "Грамада" ў Казахстане

Беларускі нацыянальна-культурны цэнтр "Грамада" Заходне-Казахстанскай вобласці створаны ў 2007 годзе ў горадзе Уральску. Узначальвае "Грамаду" Міхаіл Бяляеў, чалавек надзвычай актыўны і добрасумленны.

Працяг на стар. 7

### Няспынная малітва за Беларусь шукае ахвярных

Ініцыятары акцыі звяртаюцца да беларусаў свету з просьбай далучыцца да Няспыннай малітвы за Беларусь і падхапіць начныя беларускія гадзінкі.

Працяг на стар. 8




Злева направа: Антоній Бокун, Алена Макоўская, Лявон Баршчэўскі, Ніна Шыдлоўская, Уладзімір Сіўчыкаў

# НАША "ПЯЦІСОТГОДНАСЦЬ": КАМПАНІЯ ДА ЮБІЛЕЮ КНІГАДРУКУ ПАЧАЛАСЯ!

6 жніўня 1517 года Францішак Скарына ў Празе выдаў першую беларускую кнігу – раней за многія суседнія народы беларусы вырваліся наперад у інавацыйнай гонцы "культурных гаджэтаў".

Саюз беларускіх пісьменнікаў і Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" ў межах грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!" абвясцілі кампанію "Пяцісотгоднасць", прысвечаную юбілею беларускага друку.

Арганізатары прапануюць адпаведна значнасці падзеі годна сустрэць і адсвяткаваць 2017 год шэрагам мерапрыемстваў для шырокай публікі і сродкаў масавай інфармацыі. Усіх, хто ганарыцца нашай гісторыяй і культурай, Саюз пісьменнікаў і "Бацькаўшчына" заклікаюць далучыцца да кампаніі "Пяцісотгоднасць". Вы можаце размясціць банеры, прысвечаныя славутай даце, на сваіх інтэрнэт-рэсурсах; правесці культурна-асветніцкія акцыі; брэндзіраваць сваю прадукцыю. Нашы героі – друкары, пісьменнікі, мастакі, мецэнаты, перакладчыкі, асветнікі – прадаўжальнікі справы Францішка Скарыны, вартыя таго і чакаюць вашай увагі.

Першай імпрэзай кампаніі "Пяцісотгоднасць" стала прэзентацыя новага перакладу Новага Запавету, якая адбылася 29 красавіка ў Мінску. Старажытнагрэцкія манускрыпты, якімі карыстаўся Скарына, былі нанова перагледжаныя Антоніем Бокунам. У выніку праз паўтысячы гадоў паўстаў новы пераклад Біbліі.

Выступіць на адкрыцці кампаніі сабраліся кіраўнікі творчых і грамадскіх арганізацый, пісьменнікі і перакладчыкі, рэлігійныя дзеячы і кнігазнаўцы.

Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Сачанка

Працяг на старонцы 2.

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# НАША "ПЯЦІСОТГОДНАСЦЬ": КАМПАНІЯ ДА ЮБІЛЕЮ КНІГАДРУКУ ПАЧАЛАСЯ!

Працяг са старонкі 1.

падчас вечарыны адзначыў: "Мы хацелі б, каб 500-годдзе нашага кнігадрукавання не прайшло незаўважана, а каб гэтае свята беларускай кнігі ўвайшло ў кожны дом. Каб мы ганарыліся тым, што мы еўрапейская нацыя, якая не толькі ў Еўропе, але і адной з першых у свеце займела пераклад Бібліі на родную мову, першую друкаваную кнігу. 500-годдзе беларускай кнігі – гэта наша 500-годнасць".

"У тым, што мы пачынаем нашу кампанію новым перакладам Новага Запавету, ёсць пэўная пераемнасць і паслядоўнасць, – прамовіла кіраўнік Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Алена Макоўская. – Мы хочам нагадаць пра ўсіх людзей, якія спрычыняюцца да складанага працэсу кнігадрукавання: гэта пісьменнікі, рэдактары і карэктары, мастакі і афарміцелі, інжынеры і тэхнолагі, якія распрацоўваюць друкарскі рыштунак. Наша кампанія мае на мэце папулярызацыю беларускай культуры праз уздым цікавасці да беларускай кнігі".

Пісьменнік Уладзімір Арлоў распавёў пра абставіны жыцця і дзейнасці Францішка Скарыны і нагадаў пра яго паслядоўнікаў – Васіля Цяпінскага, Сымона Буднага, братоў Мамонічаў, Сімяона Полацкага і Гальяша Леўчыка.

Біблія Скарыны стала першай ва ўсходніх і паўднёвых славянаў, яна выйшла раней за Біблію Марціна Лютэра, на 47 гадоў апярэдзіла рускую, выйшла раней за французскі і англійскі пераклады, - нагадаў Уладзімір Арлоў.

Загадчык аддзела старадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі, намеснік старшыні Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Валер Герасімаў заўважыў, што беларуская зямля мае столькі асветнікаў, што "можна ў кожным беларускім горадзе ўсталёўваць помнікі нашым беларускім кнігам – і Семяновіча, і Скарыны, і Кірылы Тураўскага".

Перакладчык Лявон Баршчэўскі выступіў з прамовай пра тое, колькі існуе перакладаў Бібліі на беларускую мову ў сучаснасці і хто іх выконваў.

Пастар Антоній Бокун, сябра Рады ЗБС "Бацькаўшчына", цягам 2012-2016 гадоў працаваў над сваім перакладам Новага Запавету. Тэкст мае нязначныя адрозненні ад папярэднікаў, але такім чынам біблійнае слова больш дапасоўваецца да сучаснасці, да беларускага светапогляду.

Узяцца за пераклад і друкаванне Новага Запавету Антонія Бокуна змусіў колькасны недахоп беларускамоўных Біблій. Новы пераклад выйшаў накладам 10 000 асобнікаў і з'яўляецца першым крокам да годнага святкавання 500-годдзя беларускага друкаванага слова.

**Паводле budzma.by**
**Фота Зарыны Кандрацьевай**



## ВІНШАВАННІ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з днём нараджэння сяброў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў траўні: Юрася Беленькага, Паўла Мажэйку, Барыса Стука, Міколу Яцкова (Беларусь), Алега Латышонка (Польшча), Алену Міхалюк (Вялікабрытанія). Жадаем вам выдатнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, нязгаснага аптымізму, дабрабыту, плёну ў працы.

9 траўня юбілей святкуе сябра Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Лілія Плыгаўка (Літва). Сардэчна віншуем шаноўную спадарыню Лілію з юбілеем і жадаем добрага здароўя, творчага натхнення, поспехаў у працы, прыемных жыццёвых сюрпрызаў.

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

## ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ БЕЛАРУСКУЮ БІБЛІЯТЭКУ ІМЯ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ Ў ЛОНДАНЕ

15 красавіка спаўняецца 45 гадоў з моманту адкрыцця Беларускай бібліятэкі і музея імя Францыска Скарыны ў Лондане.

На сённяшні дзень Скарынаўская бібліятэка з'яўляецца найбуйнейшым сховішчам беларускіх і беларусазнаўчых выданняў па-за межамі Беларусі. У нетрах бібліятэкі захоўваецца больш за 30 тысяч кніг, якія датычаць розных аспектаў беларусазнаўства, вялікая калекцыя беларускіх перыядычных выданняў, найперш – эміграцыйных, многіх з якіх няма ў беларускіх бібліятэках, старадрукаў, рукапісаў, архіўных дакументаў, у тым ліку і архіваў Рады БНР, больш за сотню рэдкіх геаграфічных карт. У музеі пры бібліятэцы сабрана цікавая калекцыя старажытных манет, паштовых марак, мастацкіх і этнаграфічных вырабаў, сярод якіх – знакамітыя слуцкія паясы. Сярод экспанатаў ёсць і турэмная кашуля Ларысы Геніюш, перададзеная ў музей яе сынам Юркам.

Цягам усёй гісторыі існавання бібліятэкі яе фондамі карысталіся сотні беларускіх і замежных навукоўцаў, сюды прыязджалі даследчыкі з розных краін: Нямеччыны, Аўстрыі, Італіі, Польшчы, ЗША, Канады, Аўстраліі, Ізраіля. Многія значныя беларусазнаўчыя працы ўбачылі свет менавіта дзякуючы калекцыям Скарынаўкі.

Фактычна ад моманту заснавання ў 1971 годзе нязменным кіраўніком бібліятэкі быў айцец Аляксандр Надсан. Некалькі год таму айцец Аляксандр пайшоў у лепшы свет. Вельмі цешыць, што сярод беларусаў Лондана знайшліся адказныя людзі, якія годна працягваюць справу айца Аляксандра, і на сённяшні дзень бібліятэка не толькі паспяхова выконвае сваю непасрэдную функцыю як найвялікшае сховішча беларусазнаўчых кніг і дакументаў у замежжы, але і з'яўляецца знакавай культурнай пляцоўкай для беларусаў Лондана, дзе рэгулярна ладзяцца цікавыя культурніцкія імпрэзы.

Віншуем з юбілеем бібліятэку і музей імя Францыска Скарыны ў Лондане. Жадаем бібліятэцы далейшага папаўнення фондаў, а таксама болей удзячных чытачоў і дапытлівых даследчыкаў, якія дзякуючы матэрыялам Скарынаўкі адкрыюць свету новыя старонкі беларускай гісторыі і культуры.

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

# ІРКУЦКАМУ ТАВАРЫСТВУ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ ІМЯ ЯНА ЧЭРСКАГА – 20 ГАДОЎ

МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" шчыра віншуе Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага з 20-гадовым юбілеем.

На сённяшні дзень дзейнасць Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Я. Чэрскага вядомая далёка за межамі Іркуцкай вобласці і Расіі. Безумоўна, гэтая вядомасць не ўзялася з пустога месца, яна з'явілася дзякуючы двум дзесяткам гадоў нястомнай, карапатлівай працы кіраўніцтва Таварыства і яго актывістаў. І сёння ІТБК ёсць добрым прыкладам і натхняльнікам для многіх беларускіх суполак замежжа. У актыве Таварыства – сотні праведзеных культурніцкіх мерапрыемстваў. У першую чаргу – гэта беларускія абрадавыя святы, такія як Каляды, Камаедзіца, Гуканне вясны, Купалле, Дажынкі, а таксама беларускія канцэрты, фестывалі, навуковыя канферэнцыі, літаратурныя сустрэчы, гістарычныя вечарыны і інш. мерапрыемствы.

Сёння ІТБК працуе па 20 накірунках дзейнасці, галоўныя з якіх – вывучэнне беларускай мовы і гісторыі Беларусі, беларускіх бытавых танцаў, песеннай спадчыны, адраджэнне традыцыйных беларускіх рамёстваў.

ІТБК мае 12 аддзяленняў у розных гарадах і вёсках Іркуцкай вобласці. За 20 гадоў дзейнасці Таварыствам створаны больш за дзесятак фальклорных і танцавальных калектываў, традыцыйны беларускі лялечны тэатр – "батлейка", сабраная вялікая бібліятэка беларускай літаратуры, дзейнічае музей-майстэрня, дзе захоўваюцца старажытныя прадметы побыту, строі, узоры тэкстылю, знойдзеныя ў беларускіх вёсках Прыбайкалля.

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" ганарыцца супрацай з Іркуцкім таварыствам беларускай культуры, спадзяемся, што наша паспяховае супрацоўніцтва працягнецца і надалей.

Яшчэ раз сардэчна віншуем ІТБК з юбілеем, жадаем урачыста і годна адсвяткаваць гэтую значную дату! Няхай шэрагі Таварыства папаўняюцца новымі ініцыятыўнымі, нацыянальна свядомымі сябрамі, якія працягнуць закладзеныя ІТБК традыцыі па адраджэнню і папулярызацыі духоўных і культурных каштоўнасцяў беларускага народа ў Прыбайкаллі. Жадаем вам добрага здароўя, нязгаснай энергіі, поспехаў у працы!

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

**навіны "Будзьма!"**

# НОВЫ НАБОР ПАШТОВАК АД "БУДЗЬМА!" – АПІСВАЕМ КАМП'ЮТАР, ШКОЛЬНЫЯ ПРЫЛАДЫ І ЦЕЛА ЧАЛАВЕКА

Цягам апошніх гадоў кампанія "Будзьма беларусамі!" выдала 7 тысяч паштовак з серыі "Не маўчы па-беларуску", што разам з аднайменным календаром дужа палюбіліся публіцы. Кампанія вырашыла не спыняцца на дасягнутым, бо зашмат слоў па-беларуску не бывае, і падрыхтавала новы набор паштовак, які стане годным працягам папулярнага праекта!

Паводле вынікаў галасаванкі сярод чытачоў сайта budzma.by былі вызначаны новыя тэмы для папулярных паштовак. Найбольш цікава аўдыторыі было даведацца, як называюцца па-беларуску стравы, школьныя прылады, камп'ютарныя тэрміны, гародніна, расліны, жывёлы, і, вядома, часткі цела чалавека. Вясёлыя і крэатыўныя малюнкі для паштовак, як і раней, стварыла Дар'я Мандзік, аўтарка ідэі праекта "Не маўчы па-беларуску". У выніку атрымаліся цудоўныя і натхняльныя памочнікі для ўсіх, хто цікавіцца беларускай мовай і хоча размаўляць па-беларуску не толькі пра высокія сферы, але і на пабытавыя тэмы.

З дапамогай паштовак можна не толькі вучыць беларускую мову, але і далучыцца да посткросінгу, папулярнага ва ўсім свеце.

**Budzma.by**




**навіны "Будзьма!"**

# КОНКУРС ЭСЭ "ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЯ СПАДЧЫНА БЕЛАРУСІ: ПОСТАЦІ, ІДЭІ І КАНТЭКСТЫ"

Цягам апошняга года ў межах кампаніі "Цытуй сваё" шэраг грамадскіх арганізацый і ініцыятываў намагаліся звярнуць увагу шырокага кола беларусаў на той скарб, які мы ўсе разам маем, – беларускае мысленне. Дзякуючы супольным намаганням з'явіўся "Цытатнік беларускага мыслення", думкі беларускіх мысляроў увасобіліся ў арыгінальныя выявы для сакалак, адбылася серыя публічных лекцый і дыскусій "Спадчына Ігната Абдзіраловіча".

Працягваючы гэты шлях у пазнанне і разуменне саміх сябе, мы прапануем новы творчы крок – конкурс эсэ, прысвечаных постацям, ідэям і кантэкстам паўставання беларускай інтэелектуальнай традыцыі.

Да разгляду прымаюцца арыгінальныя аўтарскія эсэ, у якіх праводзіцца аналіз, рэфлексія, канцэптуалізацыя ці робіцца працяг самых розных аспектаў беларускага мыслення. Працы павінны быць напісаны ў межах наступных тэматычных накірункаў:

1. Уяўляючы Беларусь. Ідэі і канцэпты ў беларускай традыцыі, праз якія ішло асэнсаванне Беларусі, грамадства, культуры, нацыі, яе мінуўшчыны і будучыні.

2. Унікальныя ідэі, тэорыі і падыходы як беларускі ўнёсак у еўрапейскую і сусветную думку.

3. Паўставанне і выбудова традыцыі: пераемнасць, разгортванне думак і ідэяў ад мінулага ў будучыню.

4. Шлях і лёс інтэлектуала: постаці беларускай інтэлектуальнай традыцыі. Гістарычны, культурны і палітычны кантэксты інтэлектуальнай працы, выклікі і адка-

**Працяг на старонцы 5.**

навіны МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

# БЕЛАРУСКІЯ ЛІТАРАТАРЫ НАВЕДАЛІ ПАДЛЯШША



Аўтографы раздае Юры Несцярэнка. Крайні злева - Віталь Рыжкоў

У красавіку ў Беластоку адбыўся чарговы, ужо пяты, міжнародны кніжны кірмаш. Для беларускіх выдаўцоў быў арганізаваны адмысловы стэнд, дзе наведнікі маглі набыць кнігі выдавецтваў "Кнігазбор", "ARCHE", "Янушкевіч" і "Галіяфы". Да ўсяго, удзел у мерапрыемстве ўзялі і беларускія пісьменнікі Віталь Рыжкоў і Юры Несцярэнка.

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" скарысталася кірмашом як добрай нагодай для таго, каб зладзіць літаратурныя сустрэчы для вучняў беларускіх школ на Падляшшы. З польскага боку арганізацыйную нагрузку на сябе ўзяла Беларуская інтэрнэт-бібліятэка Камунікат, даўні партнёр Згуртавання. Ар-ганізатары распрацавалі маршрут адмысловага літаратурнага падарожжа з удзелам Віталя Рыжкова і Юрыя Несцярэнкі, якое ахапіла школу і ліцэй у Бельску-Падляскім і Цэнтр адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчыты-Дзенцялова, дзе адбылося некалькі запар сустрэч для вучняў, што адмыслова прыехалі з настаўнікамі з Чыжоў, Орлі і Нарвы. Яшчэ адна сустрэча прайшла ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. Сюды паслухаць беларускіх літаратараў прыйшлі вучні з Агульнаадукацыйнага лЛіцэя з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы.

Госці з Мінска прыехалі не з пустымі рукамі, а з падарункамі ад Згуртавання "Бацькаўшчына" – для кожнай школы была сабраная адмысловая бібліятэка кніг і часопісаў з серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" і "Кнігарня пісьменніка".

На думку суарганізаткі мерапрыемстваў Наталлі Герасімюк з рэсурсуа kamunikat.org, менавіта такія сустрэчы могуць стаць рухавіком, што заахвоцяць моладзь да чытання, а магчыма, і да напісання вершаў, да сваёй уласнай творчай дзейнасці.

Важнасць падзеі падкрэсліла настаўніца беларускай мовы з бельскага ліцэя Міраслава Маркевіч: "Гэта вельмі добра і вельмі важна для вучняў, таму што яны рэдка маюць магчымасць спаткацца з пісьменнікамі, ды яшчэ і з Беларусі. Інакш слухаецца, калі гаворыць настаўнік, чытае верш, а інакш, калі гэта робіць аўтар, які напісаў гэты верш, ці, напрыклад, верш іншага паэты прачытае. Для дзяцей – гэта як бы жывы ўрок".

Настаўнікі адзначаюць, што, згодна з праграмай навучання, у першую чаргу ў школах надаецца ўвага вывучэнню класікаў беларускай літаратуры, а вось сучасную беларускую літаратуру вучні практычна не ведаюць, і таму такія сустрэчы з сучаснымі, маладымі беларускімі аўтарамі вельмі карысныя для школьнікаў.

Сапраўднай падзеяй літаратурныя сустрэчы з школьнікамі Беласточчыны сталі і для паэтаў з Мінска. А для Віталя Рыжкова гэтая паездка стала яшчэ і цікавым эксперыментам: "Мяне цікавіла, ці зможа прабіцца паэзія. Дзе гэтая мяжа разумення альбо неразумення. І, здаецца, што вачэй, якія не разумеюць цябе, нашмат менш, чым у такіх-сякіх гарадах Беларусі, калі школьнікі не зусім разумеюць, пра што ты гаворыш. Бываюць розныя школы ў Беларусі, класы з розным ухілам. Калі гэта беларускія класы, беларускія ліцэі, дзе профільныя гуманітарныя навукі, там, натуральна, нават ценю непаразумення не ўзнікае, і дзеці выдатна разумеюць, але сустракаюцца няпрофільныя класы, якія з тых ці іншых прычын трапілі на твой выступ, і часам уражанне, што людзі проста не ўхоаплiваюць плынь роднай мовы ў Беларусі. А тут усё-ткі, можа быць, з перашкодамі, але непаразумення не было".

На мерапрыемствах прысутнічалі школьнікі з розных класаў – ад малодшых да старшакласнікаў. Паводле слоўваў Віталя Рыжкова, найбольш пазітыўна беларускія вершы ўспрымалі малодшыя школьнікі. Яны слухалі выступы з жывой цікавасцю, актыўна задавалі пытанні, спявалі песні разам з Юрыем Несцярэнкам.

Засталіся задаволенымі тым, як прайшлі сустрэчы, не толькі госці, але і школьнікі, і настаўнікі. Прадстаўнікі адміністрацыі школ, якія прысутнічалі на імпрэзах, дзякавалі літаратарам за цікавыя выступы і запрашалі прыязджаць яшчэ. Яны выказалі надзею, што такі беларускі літаратурны дэсант на Падляшшы будзе не апошнім.

Цікавасць да сустрэчаў, іх актуальнасць і важнасць натхнілі Згуртаванне "Бацькаўшчына" і "Камунікат" на далейшае правядзенне літаратурных турнэ па "беларускай" Польшчы. Тым больш, нядаўна з'явілася яшчэ адна добрая нагода, каб пазнаёміць навучэнцаў беларускіх школ у Польшчы з сучаснай беларускай літаратурай – пачатак кампаніі "Пяцісотгоднасць" да юбілею беларускага кнігадруку, абвешчанай Саюзам беларускіх пісьменнікаў і Згуртаваннем "Бацькаўшчына" ў межах грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!"

**Паводле "Радыё Рацыя" і "Польскага Радыё"**

**Даведка**

Згодна з перапісам насельніцтва 2011 года, у Польшчы пражывае прыкладна 44 тысячы беларусаў, абсалютная большасць з іх – у Падляскім ваяводстве. На жаль, як і ў іншых краінах, колькасць беларусаў у Польшчы змяншаецца. Так, згодна з перапісам 2002 года, у Польшчы пражывала 48 тысяч беларусаў, а ў 1992 годзе колькасць беларусаў складала 215 тысяч. Так адбываецца, безумоўна, не таму што беларусы ў Польшчы з'язджаюць, ці паміраюць, а з-за імклівых працэсаў асіміляцыі, якія няўхільна ідуць ва ўмовах адсутнасці рэгулярнай падтрымкі сваёй дыяспары з боку беларускай дзяржавы, а таксама слабай нацыянальнай ідэнтычнасці саміх беларусаў.

На сённяшні дзень у Польшчы беларускую мову як дадатковы прадмет вывучаюць 3000 вучняў у 23 пачатковых школах, 14 гімназіях, 3 агульнаадукацыйных ліцэях – у Гайнаўцы, Бельску- Падляскім і Беластоку. У Беластоку працуе дзіцячы садок з беларускай мовай навучання.

У Варшаўскім і Беластоцкім універсітэтах дзейнічаюць кафедры беларускай філалогіі. Ва ўніверсітэце імя Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне і ў Апольскім універсітэце ёсць аддзелы беларусістыкі.

навіны "Будзьма!"

# КОНКУРС ЭСЭ "ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЯ СПАДЧЫНА БЕЛАРУСІ: ПОСТАЦІ, ІДЭІ І КАНТЭКСТЫ"

Працяг са старонкі 3.

зы, індывідуальныя траекторыі і творчасць.

5. Гісторыя беларускай інтэлектуальнай традыцыі: культурны кантэкст, абставіны і інстытуты развіцця мыслення.

6. Асобны накірунак! Асэнсаванне інтэлектуальнай спадчыны Ігната Абдзіраловіча.

Да ўдзелу запрашаюцца як сталыя навукоўцы, даследчыкі, літаратары, так і студэнты і пачаткоўцы, якія цікавяцца беларускай інтэлектуальнай спадчынай.

Тэксты павінны быць раней не публікаваныя і напісаныя на беларускай альбо рускай мове. Памер тэкстаў ад 10 да 25 тысяч знакаў.

Дасылаць свае працы трэба ў электронным выглядзе з пазнакай "На конкурс" на адрас: cytuj.svajo@gmail.com да 15 жніўня 2016 г. Таксама абавязкова пазначце ў лісце сваё імя і прозвішча, кантактныя дадзеныя (пошта, тэлефон), сферу дзейнасці.

У арганізацыйны камітэт конкурсу ўваходзяць: Міжнародны кансорцыум "ЕўраБеларусь", Лятучы ўніверсітэт, грамадская кампанія "Будзьма беларусамі!", Беларускі Калегіум, "Мова Нанова", "Беларусский журнал", кнігарня "ЛогвінаЎ".

**Паводле Budzma.by**

навіны "Будзьма!"

# НЕ ТРЭБА РАЗМАХВАЦЬ МОВАЙ, ЯК СЦЯГАМ!

*"Кім будуць беларускія дзеткі, калі вырастуць?" – дыскутавалі на ток-шоў ад кампаніі "Будзьма беларусамі!" у Брэсце 1 красавіка.*

У кавярні "New York Coffee" сабраліся неабыякавыя бацькі і дзеці, каб абмеркаваць перспектывы навучання на беларускай мове ў адукацыйных установах і выхаванне беларускасці ў сем'ях.

Імпрэза пачалася з таго, што рэгіянальны каардынатар кампаніі "Будзьма беларусамі!" Марыя Шарый распавяла прысутным пра мэты і задачы кампаніі, а таксама пра вынікі яе працы за 8 гадоў існавання.

Затым мадэратар сустрэчы, каардынатар кампаніі "Будзьма беларусамі!" па Гродзенскім рэгіёне Хрысціна Марчук паказала спецыяльна падрыхтаваную для ток-шоў апытанку, у якой жыхары Горадні давалі свае нетрывіяльныя адказы на пытанне: "Што значыць выхаваць дзіця беларусам?".

У якасці запрошаных экспертаў гэтым разам выступілі людзі з самым розным досведам выхавання і навучання па-беларуску і ў беларускай традыцыі: Таццяна Малашчанка, актыўная маці, яе дачка Яся, Святлана Чакушка і Ганна Архіпенка, стваральніцы праекта "Забаўлянкі для Янкі"; Аляксандра Грынь, вядоўца курсаў "Мова Нанова дзецям" у Брэсце, настаўніца пачатковых класаў.

Адказваючы на пытанне вядоўцы, што такое выхаваць дзіця беларусам, маці трох дзяцей Таццяна Малашчанка сказала: "Выхаваць дзіця здаровым, таму што здароўе чалавека ў гэтым і заключаецца, каб дзіця выхоўвалася менавіта на роднай мове, на матчынай мове. Таму што замяніць гэта нельга нічым. Для мяне выхаваць дзіця беларуску – гэта калі яно будзе не толькі размаўляць на беларускай мове, але і ведаць сваю гісторыю і сваю культуру".

Аляксандра Грынь прыгадала ўласны досвед, калі яна вучылася ў рускамоўнай школе, не любіла беларускую мову і зайздросціла дзецям вайскоўцаў, вызваленым ад яе вывучэння. Зварот да беларушчыны пачаўся, калі спадарыня Аляксандра трапіла ў асяроддзе беларускамоўных падлеткаў. Таксама яна падзякавала сваім універсітэцкім выкладчыкам, якія прывілі любоў да гісторыі.

Распавядаючы пра выхаванне беларускасці ў неспрыяльных умовах, спадарыня Аляксандра адзначыла: "Не трэба размахваць мовай, як сцягам. Калі людзі проста камунікуюць на беларускай мове – для іх гэта проста натуральна. Мне здаецца, што гэта вельмі важна. Калі ёсць людзі ў асяродку, якія размаўляюць па-беларуску, – гэтага ўжо цалкам дастаткова".

Таццяна Малашчанка падзялілася ўласным досведам хатняга выхавання. На яе думку, найлепшы спосаб "уваходу мовы ў вушы дзяцей" – пераклады мультфільмаў, музыка, фільмы і кнігі.

Ганна Архіпенка распавяла пра адукацыйны праект "Забаўлянкі для Янкі", на які яе натхніў сынок Янка. Гэты праект адрасаваны сем'ям, якія жадаюць выхоўваць сваіх дзетак сапраўднымі беларусамі.

Цягам дыскусіі спікеры і слухачы прыйшлі да высновы, што задумвацца пра нацыянальную ідэнтычнасць свайго дзіцяці лепш як мага раней. Калі дзіця вырасце, яму будзе прасцей, бо не трэба будзе траціць сілы і час на пошук сябе. Не варта забывацца і на беларускую традыцыйную культуру, якая мае багаты досвед народнай педагогікі. І адна з галоўных думак – трэба заўжды памятаць пра свае карані.

**Budzma.by**

навіны

# БЕЛАРУСКІЯ ЎРОКІ, МАЙСТАР-КЛАСЫ, АДУКАЦЫЙНЫЯ СУСТРЭЧЫ… ЯК БЕЛАРУСЫ ІРКУЦКА ПАПУЛЯРЫЗУЮЦЬ БЕЛАРУСКУЮ КУЛЬТУРУ

У год свайго 20-годдзя актывісты Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага абралі для сябе прыярытэтнай задачай актывізаваць працу па папулярызацыі ведаў пра беларусаў у форме адкрытых урокаў, лекцый, гутарак на розныя тэмы (гісторыя, фальклор, культура) для розных узроставых груп.

Хто можа расказаць пра беларусаў лепш? Вядома, толькі сам беларус! Ды і аўдыторыі прыемней атрымаць інфармацыю з першых рук, ад носьбітаў культуры. Сустрэчы арганізуецца ў планавым парадку паводле "Каляндарнага плана работы ІТБК", але часам здараюцца і незапланаваныя. Так, нечакана паступіла прапанова ад Іркуцкага абласнога аддзялення Агульнарасійскага грамадскага дабрачыннага фонду "Расійскі дзіцячы фонд" 28 лютага ўзяць удзел у інтэрнацыянальным дзіцячым канцэрце "Прыангар'е – наш агульны дом!" у горадзе Шэлехаў.

Працяг на старонцы 6.



Гуканне вясны ў Іркуцку. Фота Алены Перагудавай

навіны

# КІРАЎНІК ДЗІЦЯЧАГА КЛУБА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў ТАРОНТА: "ДЛЯ МАЛЕНЬКІХ БЕЛАРУСКІХ ТАРОНТАЎЦАЎ ГЭТА НЕ СУМНЫЯ ЎРОКІ, ДЛЯ ІХ ГЭТА – ЖЫЦЦЁ"

3 верасня 2015 года ў Таронта пры падтрымцы Згуртавання беларусаў Канады і Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы Св. Кірылы Тураўскага пачаў дзейнічаць дзіцячы клуб беларускай мовы і культуры "Размова".

Два разы на месяц дзеці прыходзяць у беларускі цэнтр, каб даведацца пра гістарычную радзіму, навучыцца пісаць і чытаць на матчынай мове, пагуляць з сябрамі.

Кіраўнік клуба – Кацярына Віктаровіч – скончыла Педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка па спецыяльнасці "Беларуская мова і літаратура". Працавала ў Беларусі з дзецьмі рознага ўзросту і нават з падлеткамі.

Паводле слоў Кацярыны Віктаровіч, беларуская культура вельмі багатая, яна не абмежаваная ў колькасці цікавых тэм, таму іх дыяпазон вельмі шырокі: геаграфія, гісторыя, літаратура, навука, прырода – дзеці ахвотна падтрымліваюць любую прапанову настаўніка. Галоўнае – на занятку паказаць пазітыўнае стаўленне да дзіцячых адказаў. Нічога кепскага няма, калі ў адным сказе дзіця можа выкарыстаць словы з трох моваў: ангельскай, рускай і беларускай.

"Дзеці ставяцца да мовы вельмі проста і шчыра, для іх гэта не проста гісторыя бацькоў, але і інструмент пазнання свету. Так, напрыклад, мы можам "крочыць" па Беларусі, ставіць фізічныя вопыты і казаць пра ролю эмоцый – і гэта ўсё на беларускай мове. Для маленькіх беларускіх таронтаўцаў гэта не сумныя ўрокі, для іх гэта – жыццё. Гэта іх уласны досвед, гэта тое, што яны бачаць у жыцці, гэта тое, што ім цікава. Таму дэвіз клуба – імкнуцца за інтарэсамі дзяцей у вывучэнні беларускай мовы", – адзначае Кацярына Віктаровіч.



"Мы наўмысна аб'ядноўваем дзяцей на асноўнай частцы ў адну групу. Так яны вучацца дапамагаць адзін аднаму і сябраваць. На другой частцы вучні працуюць па падгрупах: "школьнікі" пішуць і чытаюць, знаёмяцца з граматыкай беларускай мовы, а маленькія "зорачкі" ў гэты час слухаюць казку ці малююць," – кажа педагог.

Кацярына Віктаровіч адзначае, што дзеці натхняюцца мастацтвам, таму ў клубе вучні абавязкова займаюцца і творчасцю: керамікай, аплікацыяй, выцінанкай ці працуюць з саломкай. Пры распрацоўцы ўрокаў педагог карыстаецца такімі вядомымі прафесійнымі часопісамі як "Вясёлка" і "Пралеска". Прыемна, што з вучэбнымі матэрыяламі дапамагаюць і самі бацькі: беларусы з дому вязуць не грэчку, а беларускія кнігі, падручнікі і нават сшыткі.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны

# БЕЛАРУСКІЯ ЎРОКІ, МАЙСТАР-КЛАСЫ, АДУКАЦЫЙНЫЯ СУСТРЭЧЫ... ЯК БЕЛАРУСЫ ІРКУЦКА ПАПУЛЯРЫЗУЮЦЬ БЕЛАРУСКУЮ КУЛЬТУРУ

**Працяг са старонкі 5.**

3 сакавіка ў рамках гарадскога праекта "Тыдзень нефармальнай адукацыі" прайшло два майстар-класы па вырабе жаўрукоў да свята "Гуканне вясны". Ахвочыя змаглі не толькі папрацаваць рукамі, але і даведацца пра традыцыю беларусаў гукаць Вясну. Усяго навучанне прайшло 34 чалавекі.

17 сакавіка ІТБК узяло ўдзел у рабоце IV Форуму адукацыйных арганізацый Іркуцкага раёна і арганізавала майстаркласы па бытавых беларускіх танцах для старшакласнікаў.

На пазакласныя ўрокі 18 сакавіка прыйшлі другакласнікі САШ №65, у Абласную дзіцяча-юнацкую бібліятэку імя І. Уткіна, каб даведацца, дзе размешчаная дзяржава Беларусь, хто яе жыхары і чаму завуцца беларусамі, якія буйныя рэкі, жывёлы, сімвалы Беларусі. Замацавалі веды праглядам мультыплікацыйных фільмаў па матывах беларускіх казак "Хлопчык з пальчык" (на рускай мове) і "Пiлiпка" (на беларускай мове). На беларускім уроку было 45 навучэнцаў. З класнымі кіраўнікамі дамовіліся працягнуць супрацоўніцтва.

З 26 па 31 сакавіка ў горадзе Улан-Батар прайшла серыя сустрэч са студэнтамі ВНУ. Мы працавалі па схеме "выстава – майстар-клас". Разгортвалі выставу: працу Ганны Радзівонавай "Керамічныя музычныя інструменты па матывах беларускага свята "Гуканне вясны", калекцыю лялек, апранутых у традыцыйны беларускі жаночы касцюм IX–XX стст., выробленых Наталляй Бакуновіч, вырабы з саломкі, бюлетэнь-газету "Маланка", буклеты і кішэнныя календары. Студэнты з цікавасцю знаёміліся з выставай, іх здзівіў беларускі арнамент, а асабліва акарыны, іх формы, матэрыял, дэкор і гуказдабыванне. Затым у лекторыі мы распавядалі пра Беларусь, беларусаў, традыцыйную вопратку, песні і танцы, выконвалі беларускія песні, паказвалі фота і відэа ІТБК, калі дазваляла памяшканне, абавязкова танчылі, што прыводзіла прысутных у неймавернае захапленне.

25 сакавіка сябры ІТБК правялі старадаўні беларускі абрад Гуканне вясны. Хлопцы і дзяўчаты з ІТБК вадзілі карагоды, гушкаліся на арэлях, палілі вогнішча, смажылі на адкрытым агні яйка і спявалі прыгожыя беларускія песні.

2 красавіка адбылася сустрэча з навучэнцамі школы №23, г. Чаромхава. Школьнікаў цікавіла канкрэтнае пытанне – традыцыйны беларускі строй. А ўсё таму, што ў школе рэалізуецца праект "Лялькі ў нацыянальных касцюмах". Я прадэманстравала свой касцюм, калекцыю лялек, апранутых у традыцыйны беларускі жаночы касцюм IX–XX стст., выробленых Наталляй Бакуновіч і сюжэт "Народны беларускі строй" студыі "Добры настрой" РБ. Слухачы акуратна запісвалі і фатаграфавалі, абяцалі запрасіць на выніковае мерапрыемства іх праекта, для ацэнкі работ.

**Паводле Алены Сіпаковай**

навіны

# БЕЛАРУСКАЯ "ГРАМАДА" Ў КАЗАХСТАНЕ

Беларускі нацыянальна-культурны цэнтр "Грамада" Заходне-Казахстанскай вобласці створаны ў 2007 годзе ў горадзе Уральску. Узначальвае "Грамаду" Міхаіл Бяляеў, чалавек надзвычай актыўны і добрасумленны. Чым толькі ні займаўся ён у жыцці: плаваў па марах ды акіянах на рыбалоўным траўлеры, працаваў у майстэрні па рамонце побытавай тэхнікі, вадзіў цягнікі, вырошчваў вінаград…

Міхаіл Аляксеевіч родам з Віцебска, а ў Казахстан ён трапіў дзякуючы жонцы. Спачатку сям'я планавала жыць у Беларусі. Але жонцы не падышоў беларускі клімат, і дактары параілі ёй пераехаць, тады сям'я Бяляевых перабралася на радзіму жонкі – ва Уральск.

На сённяшні дзень ва Уральску жыве каля 900 беларусаў, а па Заходне-Казахстанскай вобласці – прыкладна тры тысячы.

Да апошняга часу Беларускі нацыянальна-культурны цэнтр "Грамада" не меў свайго памяшкання, але гэта не перашкаджала ім актыўна працаваць на ніве папулярызацыі беларускай культуры ў Заходне-Казахстанскай вобласці. Сябры "Грамады" рэгулярна выступаюць на гарадскіх святах, этна-фестывалях, якія ладзяцца Асамблеяй народаў Казахстана, стараюцца знаёміць казахстанцаў з беларускімі традыцыямі, звычаямі і культурай падчас тэматычных сустрэч у школах і бібліятэках.

У лютым гэтага года ва Уральску адбылося ўрачыстае адкрыццё Дома дружбы. Беларускі цэнтр "Грамада", як і іншыя этна-культурныя цэнтры горада, атрымаў там памяшканне для працы. Акрамя свайго кабінета, беларусы могуць карыстацца і канцэртнай залай, канферэнц-залай, рэпетэцыйным і харэаграфічным кабінетамі, якія размешчаны ў Доме дружбы.

Нядаўна пры цэнтры "Грамада" было сфармаванае маладзёжнае крыло. Узначаліла яго Анастасія Сафіна.

"Зараз, калі ў нас з'явілася сваё памяшканне, пачалася актыўная праца па прыцягненні людзей, – гаворыць Анастасія, – я пачала збіраць моладзь. Прыемна, што людзі да нас пацягнуліся. Гэта таму, што ім у нас цікава, бо ў нас і спяваюць, і танчаць, і на музычных інструментах граюць…"

Анастасія мае не толькі выдатныя арганізатарскія, але і музычныя здольнасці. Насця гаворыць, што хадзіць і спяваць яна пачала аднлачасова. З пяці год яна выступае на сцэне. Зараз у яе рэпертуары песні на казахскай, рускай, татарскай і беларускай мовах. Шмат у чым менавіта дзякуючы спевам яе заўважыў старшыня нацынальна-культурнага цэнтра "Грамада" Міхаіл Бяляеў. Гэта адбылося падчас канцэрта, прысвечанага 50-годдзю Заходне-Казахстанскага аграрна-тэхнічнага ўніверсітэта імя Жангір-хана, у якім вучыцца Насця. Пасля канцэрта Міхаіл Аляесеевіч запрасіў Насцю ў "Грамаду", і яна пагадзілася.

"Нягледзячы на прозвішча Сафіна, у мяне беларускай крыві больш, чым татарскай. Па мамінай лініі ў мяне ўсе беларусы, а бацька напалову беларус. Толькі дзядуля па бацькоўскай лініі – татарын," – распавядае Насця.

Анастасія атрымала дыплом "з адзнакай" па спецыяльнасці хімік-тэхнолаг, а цяпер працягвае вучобу ў тым жа ўніверсітэце ў магістратуры. Насця атрымала кароткатэрміновую стажыроўку пры Акадэміі навук Беларусі і прыехала на некалькі дзён у Мінск.

"Я спецыяльна шукала стажыроўку ў Беларусі, мне вельмі хацелася сюды прыехаць. Я вельмі ўражаная Мінскам, такі чысты, прыгожы, утульны горад. Людзі вельмі добразычлівыя. Я не надта добра арыентуюся па горадзе, часта пытаю, як трапіць у тое ці іншае месца. У іншых гарадах, калі пытаеш штосьці, людзі часта ігнаруюць цябе, а тут усе стараюцца дапамагчы. Толькі беларускую мову рэдка пачуеш, я думала, што ўсё будзе па-беларуску, але гэта аказалася не так", – падзялілася ўражаннямі Насця.

"Мы яшчэ толькі робім першыя крокі.




Анастасія Сафіна ibirzha.kz

У лістападзе 2015 года мы ладзілі свята "Дажынкі". Сабралася шмат людзей. У зале, дзе праходзіла свята, не было вольных месцаў, прыехала шмат гасцей – прадстаўнікоў розных этна-культурных таварystваў з Актобэ [*горад у Заходнім Казахстане* – рэд.]. У нас зараз на дзяржаўным узроўні праводзіцца праграма "Вялікая краіна – вялікая сям'я". Мы бяром удзел ва ўсіх канцэртах, фестывалях, акцыях, якія ладзяцца ў межах гэтай праграмы. У чэрвені мы плануем правесці свята Купалле сумесна з маладзёжным крылом Асамблеі народа Казахстана", – распавяла пра найбліжэйшыя планы Анастасія.

У траўні ў Доме дружбы пачне працу цэнтр па вывучэнні моваў. Сярод іншых будуць дзейнічаць і курсы па вывучэнні беларускай мовы. Такім чынам, сябры Беларускага нацыянальна-культурнага цэнтра "Грамада" атрымаюць магчымасць вывучаць беларускую мову. Пажадаем ім поспехаў у гэтай справе і ў папулярызацыі беларускай культуры ў Казахстане.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны

# У ДАЎГАЎПІЛСЕ ПАКАЗАЛІ ЮБІЛЕЙНУЮ ВЫСТАВУ СУПОЛКІ МАСТАКОЎ-БЕЛАРУСАЎ БАЛТЫІ "МАЮ ГОНАР"

8 красавіка ў краязнаўчым музеі Даўгаўпілса адкрылася 25-я юбілейная выстава суполкі мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар", якая была заснаваная 12 студзеня 1991 года мастакамі з Латвіі, Літвы, Эстоніі і Санкт-Пецярбурга, Швецыі.

Зараз у аб'яднанне ўваходзяць тры групы. Самая вялікая латвійская група, у складзе 13 мастакоў з Рыгі і двух з Даўгаўпілса. Пачынаючы з 1991 г., латвійская група аб'яднання "Маю гонар" свае выставы ладзіла ў розных латвійскіх гарадах. Былі персанальныя выставы ў Латвіі, Рэспубліцы Беларусь, Літве, Эстоніі, Расіі, Фінляндыі, Германіі, Францыі, Канадзе і ЗША. Сваімі выставамі мастакі не толькі дапамагаюць беларускай дыяспары Балтыі ў захаванні і развіцці нацыянальнай культуры і мастацтва, але таксама знаёмяць жыхароў рэгіёну і іх гасцей з беларускай нацыянальнай творчасцю.

Экспазіцыя ў гарадскім музеі была адкрытая ў прысутнасці многіх гасцей і наведнікаў. З прывітальным словам да прысутных звярнуўся кіраўнік аб'яднання "Маю гонар" мастак, педагог і аўтар шматлікіх кніг, калекцыянер Вячка Целеш. Ён распавёў пра сваё аб'яднанне, прадставіў прысутных мастакоў, якія коратка пазнаёмілі са сваёй біяграфіяй і працамі.

Мастакоў з адкрыццём выставы павіншавалі: віцэ-мэр г. Даўгаўпілса Яніс Дукшынскі, Генеральны консул Рэспублікі Беларусь Уладзімір Клімаў, арганізатар культурных мерапрыемстваў упраўлення культуры Інара Барышнікава, кіраўнік Цэнтра беларускай культуры Жана Раманоўская, намеснік старшыні беларускага культурна-асветніцкага таварыства "Уздым" Вольга Паўловіч, дырэктар музея Рута Гіптэрэ, член таварыства "Уздым" і пісьменнік Станіслаў Валодзька.

**Паводле uzdim.lv**

навіны

# НЯСПЫННАЯ МАЛІТВА ЗА БЕЛАРУСЬ ШУКАЕ АХВЯРНЫХ

12 красавіка 2015 споўніўся год як пачалася акцыя "Няспынная малітва за Беларусь" – непарыўная малітоўная эстафета, у якой бяруць удзел мінімум 168 чалавек, кожны з якіх на працягу адной гадзіны раз на тыдзень моліцца за нашу Радзіму. З гэтай нагоды ў мінскім архікатэдральным касцёле Імя Найсвяцейшай Панны Марыі прайшла міжканфесійная малітва за Беларусь. У малітоўнай акцыі ўзялі ўдзел каталіцкія, праваслаўныя, грэка-каталіцкія і пратэстанцкія вернікі, якія самі ўдзельнічаюць у кругласутачнай малітве за Беларусь.

За год малітвы частка людзей засталася, а частка, пераважна начных малітоўнікаў, аддаўшы шмат сваіх сіл, адышла. На начную пару – найбольш складаную і ахвярную для малітвы, увесь час ёсць патрэба ў моцных верніках, бо мэта Няспыннай малітвы – гучаць увесь час, кожную хвіліну.

Ініцыятары акцыі "Няспынная малітва за Беларусь" звяртаюцца да беларусаў свету з важнай просьбай. Калі ў Беларусі глыбокая ноч, то ў беларусаў за морам і акіянам – дзень. Маліцца днём заўсёды прасцей, бо "дух бадзёры, а цела нядужае". Вельмі спадзяемся на малітоўнікаў з іншых краінаў і просім падхапіць начныя беларускія гадзінкі.

Шчырая малітва за сваю краіну мае моц і цудоўна было б, каб яна загучала з розных куткоў свету.

Запрашаем усіх ахвотных далучацца да Няспыннай малітвы за Беларусь праз пошту malitvazabielarus@gmail.com

Суполка Няспыннай малітвы за Беларусь у фэйсбуку: https://www.facebook.com/groups/796171523807725/?fref=ts

**Па інфармацыі ініцыятараў акцыі**

навіны

# БЕЛАРУСЫ МАЛДОВЫ СУМЕСНА ЗЛАДЗІЛІ СТАРАЖЫТНАЕ БЕЛАРУСКАЕ СВЯТА-АБРАД "ГУКАННЕ ВЯСНЫ"

У Бюро міжэтнічных адносін Рэспублікі Малдова 10 красавіка беларусы Малдовы па ініцыятыве грамадскага аб'яднання "Беларускі культурны рух Малдовы" сумесна зладзілі старажытнае свята-абрад "Гуканне вясны". У якасці арганізатараў кансалідавана выступілі пяць грамадскіх аб'яднанняў беларускай дыяспары ў Рэспубліцы Малдова: Беларускі культурны рух Малдовы, Беларуская грамада ў Рэспубліцы Малдова, Таварыства дружбы і супрацоўніцтва "Малдова – Беларусь", Асацыяцыя беларусаў муніцыпія Кішынёў "Беларусь", Таварыства беларускай культуры г. Бендэры.



Дапамагчы беларускай дыяспары гукаць вяну прыйшлі прадстаўнікі Пасольства Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Малдова, калегі з рускай, балгарскай, польскай, украінскай дыяспар і шматлікія сябры.

Пра асаблівасці правядзення абраду гукання вясны ў Беларусі, пра ўжо наяўную традыцыю адзначаць гэтае свята беларусамі на малдаўскай зямлі, распавялі актывісты Беларускага культурнага руху Малдовы. Беларускі этнічны тэатр "Куфар", што дзейнічае пры культурным руху, падрыхтаваў маляўнічае вясновае прадстаўленне. У святочнай праграме ўзяў удзел вакальны хор Беларускай грамады Рэспублікі Малдова "Зорачка", які парадаваў усіх гасцей вядомымі музычнымі кампазіцыямі.

Згодна са старажытнай беларускай традыцыяй "паліць зіму", на тэрыторыі парка Бюро міжэтнічных адносін Рэспублікі Малдова было праведзена сакральнае дзейства – спальванне Марэны – злоснай багіні зімы, хвароб і смерці.

Удзельнікі свята сумесна спявалі песні-вяснянкі, вадзілі карагоды, танцавалі, каштавалі смачныя стравы беларускай кухні, віншавалі адзін аднаго з надыходам вясны!

**Паводле Ганны Мазур**

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ТРАВЕНЬ 2016 ГОДА

4 траўня — 25 гадоў таму, у 1991-м, у Вільні на могілках Росы пастаўлены помнік Францішку Аляхновічу.

6 траўня — 90 гадоў таму, у 1926-м, памёр Казімір Сваяк (сапр. Канстанцін Стаповіч) (1890-1926), каталіцкі святар, паэт. Пахаваны на могілках Росы ў Вільні.

11 траўня — 430 гадоў таму, у 1586-м, нарадзілася Соф'я Алелька-Радзівіл (1586-1612), асветніца, прылічана да беларускіх праваслаўных святых.

13 траўня — 95 гадоў таму, у 1921-м, нарадзіўся Аркадзь Качан (1921-1982), дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

15 траўня — 80 гадоў таму, у 1936-м, нарадзіўся Барыс Сачанка (1936-1995), пісьменнік, публіцыст.

15 траўня — 45 гадоў таму, у 1971-м, у Лондане адкрылася Беларуская бібліятэка і музей імя Францыска Скарыны.

16 траўня — 105 гадоў таму, у 1911-м, нарадзіўся Васіль Вітка (сапр. Цімох Крысько) (1911-1996), літаратар, дзіцячы пісьменнік.

16 траўня — 30 гадоў таму, у 1986-м, у Гродне адкрыўся Дом-музей Максіма Багдановіча.

16 траўня — 20 гадоў таму, у 1996-м, у Вільні ўсталяваная памятная дошка Пётру Сергіевічу.

18 траўня — 110 гадоў таму, у 1906-м у Пяцярбургу заснаваная беларуская выдавецкая суполка "Загляне сонца і ў наша аконца".

23 траўня — 70 гадоў таму, у 1946-м, у мінскай турме НКУС памёр Кастусь Езавітаў (1893-1946), дзеяч нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння, публіцыст, перакладчык, педагог, гісторык.

26 траўня — 90 гадоў таму, у 1926-м, заснавана Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаванне "Узвышша" (дзейнічала да снежня 1931 г.).

27 траўня — 25 гадоў таму, у 1991-м, у Мінску створаная Міжнародная асацыяцыя беларусістаў (25—27 траўня адбыўся кангрэс беларусістаў).

28 траўня — 280 гадоў таму, у 1836-м, нарадзіўся Ян Карловіч (1836-1903), лінгвіст, этнограф, фалькларыст, музыказнавец.

30 траўня — 190 гадоў таму, у 1826-м, нарадзіўся Зыгмунт Серакоўскі (1826-1863), адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—1864 гг.

31 траўня — 20 гадоў таму, у 1996-м, у Іркуцку (Расія) створанае Таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага.

**Беларусы ў свеце**
№ 4 (167), красавік 2016
Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – Т. Печанко
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27